# ЗВЯЗДА

23 лютага 1996 г. пятніца, № 52 (22855)



● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў


## РОЗГАЛАС

### НАВАПОЛАЦК ПАКАЗАЎ ПРЭЗІДЭНТУ СВАЕ «НАФТАВЫЯ» МАГЧЫМАСЦІ

**Неабходнасцю вырашэння праблем далейшага развіцця нафтаперапрацоўчай галіны краіны выклікана паездка Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі на Віцебшчыну. 22 лютага свой візіт ён пачаў з наведвання наваполацкага прадпрыемства па транспарціроўцы нафты «Дружба». Затым кіраўнік дзяржавы пабываў у вытворчым аб'яднанні «Нафтан». Дарэчы, тут сёння ёсць 43 тэхналагічныя ўстаноўкі, шэраг дапаможных цэхаў, якія займаюць тэрыторыю больш за тысячу гектараў.**

Як сказаў пры сустрэчы генеральны дырэктар аб'яднання Канстанцін Часнавіцкі, перапрацоўка нафты ў «Нафтане» з далейшым экспартам атрыманых прадуктаў з'яўляецца больш эфектыўнай, чым, напрыклад, на магутнасцях большасці такіх прадпрыемстваў Расіі, іншых краін СНД. У той жа дзень Аляксандр Лукашэнка правёў нараду з кіраўнікамі і спецыялістамі галіны па праблемах пастаўкі і перапрацоўкі нафтавай сыравіны. У ёй прынялі ўдзел прадстаўнікі міністэрстваў і ведамстваў, а таксама кіраўнікі канцэрнаў, расійскіх нафтавых кампаній «ЛУКойл» і «ЮКОС».

У час сустрэчы абмяркоўвалася магчымасць рэканструкцыі і мадэрнізацыі існуючых магутнасцей у Наваполацку. Паводле разлікаў спецыялістаў будаўніцтва комплексу па глыбокай перапрацоўцы нафты дазволіць рэзка павысіць якасць прадукцыі, зрабіць яе канкурэнтаздольнай на сусветным рынку. Як адзначалася, будаўніцтва комплексу ацэньваецца спецыялістамі ў 400-450 мільёнаў амерыканскіх долараў, аднак неабходных інвестыцый да гэтага часу «Нафтан» не атрымаў. Сродкі для будаўніцтва плануецца атрымаць за кошт прыбытку ад пастаўкі ў рэспубліку і перапрацоўкі ў аб'яднанні каля 7 мільёнаў тон нафты ў год, а таксама за кошт прыцягнення замежных крэдытаў.

**Тэрэза ХАЮЦІНА, БЕЛТА.**

### ДАБРАЧЫННАЯ АКЦЫЯ ДА ДЗЕСЯЦІГОДДЗЯ ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ АВАРЫІ. ПРЭЗІДЭНТ ПАДТРЫМАЕ ПРЫГАЖОСЦЬ, ТАМУ ШТО ЯНА ВЫРАТОЎВАЕ СВЕТ

**Кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Міхаіл Мясніковіч накіраваў пісьмо прэзідэнту Французскай федэрацыі высокай моды Жаку Мукліе і прэзідэнту Міжнароднай дабрачыннай асацыяцыі Віктару Грудзько, у якім гаворыцца: «Азнаёміўшыся з праектам правядзення на працягу 1996 года міжнароднай дабрачыннай акцыі «Прыгажосць выратуе свет.**

У дапамогу дзецям Чарнобыля» з арганізацыяй 2—6 мая 1996 года ў г. Мінску гала-спектакля ў Дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Беларусі і ўлічваючы іх значнасць для Рэспублікі Беларусь у год дзесяцігоддзя катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Лукашэнка А.Р. выказаў сваю поўную падтрымку гэтаму пачынанню і ўзяў арганізацыю і правядзенне акцыі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь пад свой асабісты патранаж».

У якасці бязвыплатнага ўкладу ў правядзенне акцыі «Прыгажосць выратуе свет. У дапамогу дзецям Чарнобыля» Адміністрацыя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і Кабінет Міністраў забяспечаць правядзенне гала-спектакля ў Вялікім тэатры оперы і балета, транспарціроўку грузаў і ўдзельнікаў акцыі па маршруту Парыж—Мінск—Парыж, пражыванне высокіх гасцей і ўдзельнікаў, іх харчаванне і іншыя віды абслугоўвання, страхаванне калекцый і тэхнічных сродкаў, ахову і спецыяльнае мытнае абслугоўванне калекцый і абсталявання для правядзення гала-спектакля. Для падтрымкі акцыі ствараецца рэспубліканскі каардынацыйны цэнтр.

**БЕЛТА.**

### 28 ЛЮТАГА МІТЫНГУ ПРАТЭСТУ ПРАФСАЮЗАЎ НЕ БУДЗЕ. ПРЫНАМСІ, НА ПЛОШЧЫ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

**Мінскі гарвыканком вырашыў адмовіць Асацыяцыі незалежных прамысловых прадпрыемстваў Беларусі (нагадаем, у яе састаў уваходзяць галіновыя прафсаюзы аўтасельгасмаша і радыеэлектронікі) ў правядзенні 28 лютага на сталічнай плошчы Незалежнасці мітынгу і шэсця ў абарону правоў працоўных.**

Фармальнай падставай для адмовы стала пастанова Савета Міністраў ад 6 кастрычніка 1993 года аб асобым статусе галоўнай плошчы краіны, на якой дазваляецца правядзенне мерапрыемстваў з нагоды выключна афіцыйных дзяржаўных святаў Па сутнасці ж, прычына рашэння гарвыканкома ў тым, што на працягу апошніх дзён пасля перамоў з прафсаюзамі ўрад прыняў шэраг пастаноў, якія скіраваны на падтрымку прамысловых прадпрыемстваў краіны. У гэтых варунках, па словах загадчыка юрыдычнага аддзела Мінскага выканаўчага камітэта Васіля Актысюка, правядзенне масавых акцый пратэсту губляе ўсякі сэнс.

Пытанне аб іншым месцы правядзення мітынгу і шэсця на выканкоме не разглядалася. Тлумачэнне таму простае: ініцыятары акцый — лідэры прафсаюза аўтасельгасмаша А. Бухвостаў і прафсаюза радыёэлектронікі Г. Фядыніч — заяў з канкрэтнымі альтэрнатыўнымі прапановамі пакуль не падавалі.

**Сяргей ГРЫБ.**

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

### МАТЫВЫ ЗАСТАЮЦЦА НЕВЯДОМЫМІ

**Як пісала «Звязда» ў суботнім нумары, беларусы, якія знаходзіліся на борце самалёта, што выконваў рэйс Масква—Гавана, падчас тэхнічнай пасадкі ў ірландскім аэрапорце Шэнан папрасілі палітычнага прыстанішча ва ўладаў Ірландыі. Зараз сталі вядомы некаторыя падрабязнасці.**

Сярод 12 пасажыраў (іракцаў, латвійцаў), што звярнуліся да ірландскіх уладаў з просьбай аб палітычным прыстанішчы, сям'я беларусаў — муж і жонка Славушэўскія і двое іх дзяцей. Кіраўнік знешнепалітычнага ведамства Беларусі Уладзімір Сянько зазначыў, што на тэрыторыі Ірландыі няма дыпламатычнага прадстаўніцтва Беларусі, і таму ўзяць удзел у гэтай справе прыбыў другі сакратар беларускага пасольства ў Лондане Алег Якавіцкі. Аднак, як паведаміў спадар Сянько, Славушэўскія адмовіліся сустрэцца з Якавіцкім. Аб матывах звароту беларусаў з просьбай аб прадастаўленні палітычнага прыстанішча ірландскі бок не паведаміў.

Стала вядома, што ірландцы звярнуліся ў Міністэрства замежных спраў Беларусі з запытам аб парадку праходжання абавязковай службы ў Беларускім войску і магчымасці яе замены на альтэрнатыўную.

**Сяргей ПРОТАС.**

### АД ЧАТЫРНАЦЦАЦІ ДА ДЗЕВЯТНАЦЦАЦІ ПРАЦЭНТАЎ МІНЧАН НЕ ПЛАЦЯЦЬ КВАРТПЛАТУ СВОЕЧАСОВА

**Пра гэта на прэс-канферэнцыі ў Мінгарвыканкоме заявіў начальнік Галоўнага вытворчага ўпраўлення жыллёвай гаспадаркі Леанід Лук'яновіч, адзначыўшы, што гэта «сярэдняя» лічба, паколькі ў розных раёнах беларускай сталіцы колькасць неплацельшчыкаў вагаецца.**

Так, на 1 лютага самая нізкая запазычанасць па квартплаце была ў Партызанскім раёне — 4,8 працэнта, самая высокая — 22,5 — у Фрунзенскім раёне сталіцы. Дарэчы, тэрміны ўнясення кватэрнай платы сталі больш жорсткімі. Запазычанасць наступае, калі жылец не плаціць за паслугі па ўтрыманню жылля да 20 числа наступнага месяца. «Пакараннем» яму становіцца налічэнне пені, памер якой істотна павялічыўся.

У якасці мераў, якія прымяняюцца да злосных неплацельшчыкаў, Лук'яновіч назваў натарыяльныя запісы па спагнанню запазычанасці. З астатнімі «змагаюцца» ўгаворамі і строгімі папярэджаннямі адключыць у кватэры газ, ваду, электраэнергію. Дарэчы, па яго словах, такія «драконаўскія» меры прымяняліся пакуль толькі ў дачыненні да арандатараў, а не да жыльцоў, хаця, згодна з распараджэннем Кабінета Міністраў, жыллёвая служба на гэта мае права.

**Святлана ЮЗІК, БелаПАН.**



### УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*№ 85*

**Аб назначэнні П. П. ПРАКАПОВІЧА намеснікам кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь**

Назначыць **Пракаповіча** Пятра Пятровіча намеснікам кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*21 лютага 1996 г., г. Мінск.*

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

### СІЛА ЗАКОНА ЦІ ЗАКОН СІЛЫ ПАВІНЕН КІРАВАЦЬ БЕЛАРУССЮ?

**Гэта пытанне ў асноўным і абмяркоўвалі дэпутаты Вярхоўнага Савета 22 лютага, разглядаючы пасланне Канстытуцыйнага суда аб стане канстытуцыйнай законнасці ў нашай краіне ў 1995 годзе.**

Як вядома, напярэдадні абмеркавання гэтага важнага пытання дэпутаты Вярхоўнага Савета прынялі спецыяльную пастанову аб трансліраванні разгляду гэтага пытання па дзяржаўным тэлебачанні і радыё. Пікантнасць сітуацыі ў тым, што разгляд праблем законнасці і канстытуцыйнасці суправаджаўся парушэннем гэтай пастановы і закона аб Вярхоўным Савеце з боку кіраўніцтва Белдзяржтэлерадыёкампаніі. Працяглыя перагаворы кіраўнікоў Вярхоўнага Савета і БДТРК нічога не далі, і таму грамадзяне Беларусі не змаглі паслухаць, што адбывалася ў гэты па-свойму гістарычны для нашай краіны дзень, калі парламент упершыню разглядаў пасланне Канстытуцыйнага суда. Паводзінам кіраўніцтва радыё і тэлебачання быў прысвечаны пэўны час пасяджэння, дэпутаты выказвалі сваё абурэнне гэтым фактам і заяўлялі аб неабходнасці змяненняў у заканадаўстве, якія дазволілі б Вярхоўнаму Савету больш уплываць на кіраўніцтва БДТРК.

С. Шушкевіч зазначыў, што справа не ў ім, а ў кіраўніцтве выканаўчай улады. Тым самым была зададзена вострая крытычная танальнасць і ходу абмеркавання прадстаўленага Канстытуцыйным судом пaслання.

Старшыня Канстытуцыйнага суда Валерый Ціхіня выступіў перад дэпутатамі з кароткім паведамленнем, у якім ён абагульніў тыя тэзісы, якія публікаваліся ў пасланні КС. У прыватнасці, ён заявіў, што стан канстытуцыйнай законнасці з прававога пункту гледжання быў нездавальняючы. Прычынамі гэтаму былі:

парушэнне канстытуцыйнага прынцыпу падзелу ўладаў, спалучанае з зацяжным парламенцкім крызісам, спыненнем заканатворчага працэсу і парламенцкага кантролю за выканаўчай уладай. Выканаўчая ўлада брала на сябе функцыі іншых галін улады, што В. Ціхіня назваў недапушчальным у прававой дзяржаве;

**(Заканчэнне на 3-й стар.)**

*АФІЦЫЙНА*

### УВАГА ДА ПРАБЛЕМ «АФГАНЦАЎ» НЕ АБМЕЖАВАЛАСЯ ТОЛЬКІ ДНЁМ ПАМЯЦІ

**Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка 15 лютага падпісаў распараджэнне «Аб мерах па ўзмацненню сацыяльнай абароны воінаў-інтэрнацыяналістаў».**

У гэтым распараджэнні Кабінету Міністраў дадзены шэраг даручэнняў. У трохмесячны тэрмін урад павінен распрацаваць і прадставіць Прэзідэнту праект дзяржаўнай праграмы па сацыяльнай абароне грамадзян, якія выконвалі воінскі ці службовы абавязак у Афганістане або іншых краінах, дзе вяліся баявыя дзеянні. Кабінету Міністраў даручана ў двухмесячны тэрмін зацвердзіць комплексную праграму дыспансерызацыі і медыцынскай рэабілітацыі воінаў-інтэрнацыяналістаў.

Прэзідэнт таксама распарадзіўся прадугледзець у 1996 годзе пераважнае права прадастаўлення жылых памяшканняў па дагаворах найму, пабудаваных за кошт сродкаў дзяржбюджэту, воінам-інтэрнацыяналістам, якія стаяць на ўліку маючых патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў. Акрамя гэтага, ураду даручана ў месячны тэрмін выдзеліць неабходныя грашовыя сродкі, у тым ліку ў замежнай валюце, на лячэнне і пратэзаванне інвалідаў вайны ў Афганістане. Гэтым жа дакументам Міністэрству фінансаў даручана выдзеліць Міністэрству сацыяльнай абароны 340 мільёнаў рублёў з рэзервовага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь для аказання дапамогі сем'ям ваеннаслужачых, якія загінулі пры выкананні інтэрнацыянальнага абавязку ў Афганістане.

**БЕЛТА.**

### У ПРЭЗІДЭНТА БУДЗЕ МЕНШ ПРАБЛЕМ З ВЫРАШЭННЕМ КАДРАВЫХ ПЫТАННЯЎ

**Міхаіл Мясніковіч падпісаў распараджэнне аб стварэнні Кансультатыўнага савета па кадравай палітыцы пры Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі. Падставай для гэтага стаў Указ Аляксандра Лукашэнкі ад 30 снежня 1995 года «Аб удасканаленні сістэмы забеспячэння дзейнасці Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь».**

Зацверджана і адпаведнае Палажэнне аб гэтым савеце, згодна з якім ён з'яўляецца пастаянна дзеючым кансультатыўна-дарадчым органам пры Адміністрацыі Прэзідэнта і забяспечвае выпрацоўку прапаноў па рэалізацыі дзяржаўнай кадравай палітыкі нашай рэспублікі.

У ліку асноўных задач савета: распрацоўка прапаноў па фарміраванню адзінай дзяржаўнай сістэмы ўліку кіруючых работнікаў дзяржаўных органаў, прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў, а таксама падрыхтоўка рэкамендацый па каардынацыі дзейнасці гэтых органаў па падрыхтоўцы, перападрыхтоўцы, павышэнню кваліфікацыі кіраўніцкіх кадраў, удасканаленню сістэмы атэстацыі кіруючых работнікаў органаў дзяржаўнага кіравання, іх конкурснаму адбору і вылучэнню, фарміраванню рэзерву кіраўніцкіх кадраў і арганізацыі работы з ім.

Згодна з палажэннем, дзейнасцю савета кіруе кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта. Ён жа зацвярджае яго састаў з ліку вядучых вучоных, аўтарытэтных грамадскіх дзеячаў, кіраўнікоў органаў выканаўчай улады, устаноў і арганізацый. Члены савета прымаюць удзел у яго рабоце на грамадскіх асновах.

Для прапрацоўкі пытанняў, падрыхтоўкі пасяджэнняў, правядзення экспертных і аналітычных работ савет можа ствараць секцыі, рабочыя групы і камісіі. Яго рашэнні носяць рэкамендацыйны характар.

Міхаіл Мясніковіч даручыў сваім намеснікам сумесна з Кабінетам Міністраў падрыхтаваць прапановы па персанальнаму саставу Кансультатыўнага савета па кадравай палітыцы пры Адміністрацыі Прэзідэнта.

**БЕЛТА.**

### КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ

**у камерцыйных банках на 22 лютага 1996 г.**

| Назва банка | Долар ЗША Купля | Долар ЗША Продаж | Нямецкая марка Купля | Нямецкая марка Продаж | Расійскі рубель Купля | Расійскі рубель Продаж | Тэлефоны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Белбізнесбанк (гал. аперац. упраў.) | 11900 | 12100 | 7900 | 8150 | 2.30 | 2.50 | 067 |
| Белбізнесбанк (гарадская дырэкцыя) | 11800 | 12100 | 7900 | 8250 | 2.30 | 2.55 | |
| ФК «Вераніка»*** (за расійскія рублі) | 11970 4800 | 12080 4900 | 8050 | 8200 | 2.45 | 2.52 | 531-504 |
| Мінскі транзітны банк*** | 11800 | 12200 | 7850 | 8200 | 2.35 | 2.55 | 298-174 |
| Ф-л 0104 АКБ «Минский транзитный банк» | 11900 | 12100 | 7900 | 8150 | 2.20 | 2.50 | 372-825 |
| Народны банк | 11850 | 12050 | 7900 | 8150 | 2.35 | 2.50 | 238-610 |
| «Алімп» | 12000 | 12150 | 8000 | 8300 | 2.45 | 2.54 | 508-556 |
| Ф-л № 1 АКБ «Алімп» | 12000 | 12150 | 7900 | 8100 | 2.40 | 2.50 | 291-646, 067 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 11500 | | 7905.41 | | 2.40 | | |
| Цэнтрабанк Расіі | 4770 | | 3278.35 | | 100 бел.р. 39.27 | | |

Магчыма аперацыя за наяўны і безнаяўны разлік

** — Аперацыя праводзіцца толькі па безнаяўнаму разліку

*** — Аперацыя з валютай звыш 1000 $ праводзіцца на дагаворных умовах

На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах.

Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.

**Агенцтва Граўцова.**

## Са святам, воіны Айчыны!

***Дарагія воіны Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь, салдаты, сяржанты, прапаршчыкі, афіцэры і генералы! Дарагія ветэраны, воіны запасу!***

*Наша краіна ўрачыста адзначае Дзень абаронцаў Айчыны і Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь.*

*Сардэчна віншую з гэтай знамянальнай падзеяй увесь беларускі народ, воінаў Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь, ветэранаў вайны і працы, партызан і падпольшчыкаў, работнікаў тылу, воінаў запасу, усіх удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны.*

*За ўсю многавяковую гісторыю беларусы не раз абаранялі сваю родную зямлю ад нашэсцяў заваёўнікаў, ворагаў і заўсёды адстойвалі яе з гонарам, праяўляючы цуды храбрасці, стойкасці і гераізму.*

*У нашай арміі слаўныя баявыя традыцыі. З асаблівай сілай яны праявіліся ў гады Вялікай Айчыннай вайны.*

*З першых трагічных дзён той страшнай вайны ішлі да Перамогі разам з беларусамі рускія, украінцы, воіны іншых нацыянальнасцей. Высокі дух патрыятызму, дружбы даў магчымасць народу вытрымаць самыя цяжкія выпрабаванні.*

*Гераічнае пакаленне народаў былога Савецкага Саюза здзейсніла небывалы працоўны подзвіг пасля разбуральнай вайны, адрадзіўшы з попелу і руін тысячы гарадоў і вёсак, асабліва ў нашай роднай Беларусі.*

*І сёння мы разглядаем абарону сваёй роднай Айчыны, умацаванне маладой дзяржавы, забеспячэнне яе бяспекі як адну з важнейшых функцый органаў дзяржаўнага кіравання.*

*Армія заўсёды была і застаецца школай мужнасці, патрыятызму, ідэйнай загартоўкі маладога пакалення. Яна і цяпер пільна стаіць на варце бяспекі мірнай працы нашага народа.*

*У рэспубліцы ідзе карпатлівая, напружаная работа па рэфарміраванню эканомікі, умацаванню дзяржавы, адным з інстытутаў якой з'яўляюцца Узброеныя Сілы. Дзяржавай прымаюцца канкрэтныя меры па развіццю добрасуседскіх адносінаў з усімі краінамі, у першую чаргу з тымі, якія маюць з намі агульную граніцу.*

*Мы ўпэўнены, што мір і згода ў нашым грамадстве надзейна забяспечваюць Узброеныя Сілы. Армія павінна быць сёння на ўзроўні самых высокіх патрабаванняў, а служба ў радах Узброеных Сіл павінна заставацца справай гонару і доблесці маладога пакалення. Народ заўсёды з арміяй. Так было і так заўсёды будзе ў Рэспубліцы Беларусь.*

*Віншую са святам усіх, хто сумленна нясе нялёгкую армейскую службу, хто ўжо аддаў ёй свае лепшыя гады, хто сваім розумам, ведамі і вопытам садзейнічае ўмацаванню Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь.*

*Са святам Вас, дарагія суайчыннікі!*

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, Галоўнакамандуючы Узброенымі Сіламі Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*22 лютага 1996 г.*

Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.

### ЗАГАД МІНІСТРА АБАРОНЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*№ 100*

*22 лютага 1996 г.* *г. Мінск*

Таварышы генералы і афіцэры, прапаршчыкі і старшыны, сяржанты і салдаты, служачыя і рабочыя Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь!

Дарагія ветэраны Вялікай Айчыннай вайны і Узброеных Сіл!

23 лютага — Дзень абаронцаў Айчыны і Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь. Для многіх пакаленняў гэта асабліваe свята, паколькі ў свядомасці нашага народа яно звязана з вялікай ідэяй патрыятызму і любві да Радзімы.

Гісторыя Беларусі мае вельмі багатыя традыцыі вернасці Айчыне, мужнасці, гераізму і доблесці. У гады Вялікай Айчыннай вайны беларускі народ разам з іншымі брацкімі народамі здзейсніў найярчэйшы подзвіг, адстаяўшы свабоду і незалежнасць роднай зямлі. Вечная слава воінам, партызанам і падпольшчыкам, якія аддалі свае жыцці ў імя Вялікай Перамогі. Нізкі паклон усім франтавікам, якія з гонарам выканалі свой воінскі абавязак.

Цяпер на варце суверэнітэту і незалежнасці Рэспублікі Беларусь стаяць наследнікі франтавікоў — дзеці, унукі, праўнукі герояў. Яны з'яўляюцца сведкамі і ўдзельнікамі станаўлення Узброеных Сіл нашай дзяржавы, у якіх, нягледзячы на сацыяльна-эканамічныя цяжкасці, працягваюцца мнагапланавыя рэформы. Адначасова ідзе баявая вучоба, асабовы састаў настойліва авалодвае даверанымі зброяй і тэхнікай, праходзіць школу патрыятычнага выхавання і сапраўднай загартоўкі.

Віншую воінаў Узброеных Сіл, нашых дарагіх ветэранаў, увесь народ Беларусі з цудоўным святам!

Жадаю ўсім поспехаў у ратнай службе і мірнай працы на карысць Беларусі, добрага здароўя, шчасця і ўпэўненасці ў будучыні.

ЗАГАДВАЮ:

У азнаменаванне Дня абаронцаў Айчыны і Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь зрабіць

23 лютага 1996 года ў 20 гадзін святочны феерверк у сталіцы Рэспублікі Беларусь горадзе-герої Мінску і крэпасці-герої Брэсце.

**Міністр абароны Рэспублікі Беларусь генерал-лейтэнант Л. МАЛЬЦАЎ.**

## АДКРЫЦЬ І ПАЗНАЦЬ АРМІЮ

**Толькі непавагай да праўды можна растлумачыць жаданне гаварыць у святочны дзень пра светлае, пазбаўленае цёмных плямаў. Але тут узнікае пачуццё дваякасці — і ганіць армію ў дзяржаўнае свята таксама неяк не з рукі, нетактоўна. Мне думаецца, што сёння якраз той дзень, калі можна і трэба сказаць з пазіцый арміі, паспрабаваўшы стаць у афіцэрскі ці салдацкі строй.**

Спапяляючы ўсё тое добрае, што ёсць у арміі, адным-двума стрэламі газетных публікацый пра мардабой і «казарменнае мяса», мы забываемся, што выхоўваюць, вучаць быць людзьмі не толькі ў арміі. А спярша — у сям'і, у школе, у дзіцячым садку. Выхоўвае найперш усё грамадства. Яно вучыць і рыхтуе да вайсковай службы, дае урок павагі альбо фіксіруе трывалую нелюбоў да ратнай працы, да тых, хто першым заўсёды гатовы пайсці ў бой. І за нас з вамі, за наша жыццё — таксама.

Грамадства, палітыкі (найперш — тыя ў якіх за плячыма не заўсёды партыя нават у пяць чалавек) у апантаным жаданні зламаць крылы чарговаму ветраку, забываюць, што на іх жа і працуе той вятрак. Забываюць, што адстойваць незалежнасць, суверэнітэт толькі тады і магчыма, калі ёсць моцныя дзяржаўныя інстытуты. Ва ўсякай дзяржаве адзін з самых важных — Узброеныя Сілы. І менавіта мацаванне іх — не толькі фізічнае, матэрыяльнае, але і маральнае — сведчанне свядомасці, здароўя грамадскіх і палітычных сіл, насельніцтва краіны.

Армію трэба пазнаць. Пазнаць і адкрыць. Не кожнаму гэта пад сілу. Часам усё нагадвае сітуацыю, апісаную больш як восемдзесят гадоў назад: «Якія ўзаемаадносіны арміі і інтэлігентных слаёў нашага грамадства? Апошнім не хапае пазнання сваёй арміі. Яны малаінфармаваныя пра нашу ўзброеную сілу, мала яе ведаюць, — адсюль і відавочнае раўнадушша, а каму патрэбна — то і знявага. Мала ведаў, значыць і няма адкуль з'явіцца павазе да арміі, няма нават, няма і не можа быць любві да яе. Лепшым доказам адсутнасці ў інтэлігенцыі пазнання арміі служыць праца нашай Дзяржаўнай думы па ваенных пытаннях...» Няма сёння той Думы. Іншая ў нас дзяржава. Але ж не лепшай падаецца ў дачыненні да арміі і сённяшняя сітуацыя.

Што зменіцца заўтра? Ці адчуе народ, што строй вайскоўцаў — гэта не проста часовы прытулак для яго дзяцей? Ці зразумее кожны бацька, што ён аднымі падаткамі ад арміі не адкупіцца, што ён павінен яшчэ і выхаваць, падрыхтаваць сына для вайсковай службы.

Мо пройдзе час — і наша грамадства пазбавіцца адмоўнага стаўлення да арміі дзякуючы наступным рэцэптам, як на пачатку стагоддзя ў адной з еўрапейскіх краін. «Няма куточка, дзе б ні блішчала каска. Грамадзянін на памяць пералічыць ўсе палкі пяхоты, беспамылкова вызначыць месцы іх дыслакацыі. У нас жа абывацель даволі часта блытае артылерыста з пехацінцам, а любая паненка не адрознівае доктара ад афіцэра Генеральнага штаба...»

Безумоўна, лекі, рэцэпты можна знайсці і свае. Галоўнае, каб шукалі іх усёй грамадой. І помнілі пра армію заўжды, не толькі ў святы.

З «несвяточнай» ды штодзённай павагай да арміі

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ, маёр запасу.**

*СУПРАЦОЎНІЦТВА*

## ВІЗІТ ПРЭМ'ЕРА

### Два дні ў Сафіі знаходзілася ўрадавая дэлегацыя Беларусі на чале з прэм'ер-міністрам Міхаілам Чыгіром

**Візіт закончыўся тым, чым і павінен быў закончыцца: хрустальным звонам бакалаў з шампанскім у вялікай прыгожай зале, узаемнымі віншаваннямі, усмешкамі і поціскам рук пры святле юпітэраў. Праз некалькі гадзін гэты сюжэт убачылі мільёны тэлегледачоў. Упэўнены, у галовах многіх мільгнула зайздросная думка: начальству прыгожа жыць не забароніш. Прынамсі, я сам некалі так думаў. Але нават павярхоўнае знаёмства з практыкай падрыхтоўкі афіцыйных візітаў на вышэйшым узроўні, у дадзеным выпадку ў Балгарыю, назіранні за працай там дэлегацыі і асабліва нервовай мітуснёй суправаджальных асоб, супрацоўнікаў пасольства, прывялі да старой як свет высновы: не ўсё золата, што блішчыць. Банальнае, але дакладнае параўнанне пратакольных мерапрыемстваў накшталт урачыстых сустрэч і провадаў, абходу ганаровай варты і афіцыйных абедаў, з вяршыняй айсберга тут будзе не зусім дарэчы. Бо гэта і не вяршыня, а, хутчэй, кавалачак яе піка.**

Візіту прэм'ера папярэднічала вялікая падрыхтоўчая праца, да якой былі прыцягнуты шэраг міністэрстваў і ведамстваў краіны, у першую чаргу міністэрствы замежных спраў і знешнеэканамічных сувязей. Значны ўклад унеслі таксама міністэрствы эканомікі, прамысловасці, гандлю, лясной гаспадаркі, транспарту, аховы здароўя, сельскай гаспадаркі і іншыя. І як вынік — салідны пакет з пятнаццаці праектаў пагадненняў, якія Беларусь і Балгарыя накіравалі адна аднай на вывучэнне, парафіраванне. Але на фінішную прамую падпісання выйшлі дзесяць дакументаў. Падпісана было восем. Што, увогуле, з'яўляецца нармальнай практыкай двухбаковых адносінаў.

Астатнія праекты не пакладзены на паліцу. Яны будуць паступова дапрацоўвацца і некалі, хутчэй за ўсё ў час візіту ў адказ на Беларусь на вышэйшым узроўні, асобныя з іх таксама набудуць моц дакументаў.

Калі прытрымлівацца прынятых у свеце крытэрыяў, то афіцыйнае наведванне Балгарыі прэм'ерам можна без перабольшвання назваць вельмі ўдалым і эфектыўным. Згодна з традыцыямі міжнародных адносінаў поспехам лічыцца заключэнне ў час аднаго візіту на вышэйшым узроўні трох пагадненняў. Асабліва, калі ў пакеце ёсць такія складаныя дакументы, як аб гандлёва-эканамічным супрацоўніцтве, аб пазбяганні двайнога падаткаабкладання, аб заахвочванні і ўзаемнай абароне інвестыцый, давядзенне якіх да ладу займае прыкладна год. А тут мы маем значна больш. Гэта тым больш поспех, што яшчэ некалькі гадоў назад у нас з Балгарыяй поўнасцю адсутнічала дагаворна-прававая база, а ў нашага ўрада і міністэрстваў не было вопыту самастойнай падрыхтоўкі і прапрацоўкі ўсіх аспектаў такіх візітаў.

Вынікі паездкі прэм'ера неабходна яшчэ разглядаць і як важны ўклад у ажыццяўленне палітыкі вяртання Беларусі на рынкі былых краін—удзельніц СЭУ, дзе яна раней даволі шырока прысутнічала і выгадна гандлявала для ўсяго СССР. Цяпер надышоў час гандляваць для сябе.

У дадзеным накірунку сёе-тое ўжо зроблена. За мінулы год на трэць узрос гандлёвы абарот з Польшчай, у чатыры разы — з Літвой, абарот з Украінай перавысіў мільярд долараў, ёсць пазітыўныя зрухі ў гандлі і з іншымі краінамі. Але ўсё роўна ў параўнанні з нашымі магчымасцямі гэта толькі пачатак вялікай працы, мэта якой — у бліжэйшыя два гады дасягнуць і нават перасягнуць лепшыя паказчыкі гандлю з краінамі былога СЭУ. А перспектывы ў нас тут ёсць вельмі неблагія.

І важны крок у іх рэалізацыі — візіт Міхаіла Чыгіра ў Балгарыю.

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

## З'ЕСЦІ БОЛЬШ ПЕРАШКАДЖАЕ КАШАЛЁК

**Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў Міністэрстве хлебапрадуктаў, вытворчасць хлеба і хлебабулачных вырабаў за мінулы месяц скарацілася ў цэлым па краіне ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года да 96,7 працэнта, у тым ліку хлеба — да 95,5 працэнта. Асобна па Мінску апошні паказчык раўняўся 91,7 працэнта.**

Вытворчасць булачных вырабаў склала 103,2 працэнта. За апошнія месяцы значна скараціўся выпуск бараначных вырабаў (82,2 працэнта), сухароў здобных (82,5 працэнта), кандытарскіх вырабаў (81,4 працэнта).

На думку спецыялістаў міністэрства, скарачэнне аб'ёмаў вытворчасці асобных відаў прадукцыі тлумачыцца, найперш, іх коштам. Есці хлеб і хлебабулачныя вырабы пачалі больш эканомна, не набываючы лішняга. Нагадаем, што цэны на булачныя вырабы апошнім часам не павялічваліся. Бывае, што паказчыкі па аб'ёмах вытворчасці без пэўных прычын адрозніваюцца па розных рэгіёнах краіны. Тлумачыцца гэта мясцовымі асаблівасцямі ці яшчэ нечым іншым, — спецыялістам невядома.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ЧАСТКА ГАЗАВАЙ МАГІСТРАЛІ «ЯМАЛ — ЕЎРОПА» МОЖА НАЛЕЖАЦЬ БЕЛАРУСІ

**Пераможцам тэндэра на будаўніцтва лінейнай часткі газаправода «Ямал — Еўропа» на ўчастку «Нясвіж — дзяржаўная граніца Польшчы», праведзенага ў канцы мінулага года расійскім акцыянерным таварыствам «Газпром», разам з АТ «Будтрансгаз» з Масквы названа і АТ «Белтрубаправодбуд» з Мінска.**

— Сярод асноўных крытэрыяў, па якіх вызначаўся пераможца міжнародных таргоў, — тэхнічная аснашчанасць суіскальнікаў і кошт праекта, — сказаў, каменціруючы гэты факт па просьбе карэспандэнта БЕЛТА, генеральны дырэктар Беларускага дзяржаўнага прадпрыемства па транспарціроўцы і пастаўцы газу Мікалай Мачарнюк. — Ацэнка праводзілася камп'ютэрным метадам і групай незалежных экспертаў. Сіламі абодвух прадпрыемстваў, якія выйгралі конкурс, прадугледжваецца пралажыць участак працягласцю 209 кіламетраў. На тэрыторыі рэспублікі асноўным генпадрадчыкам з'яўляецца акцыянернае таварыства «Белтрубаправодбуд», але ва ўзвядзенні аб'екта, акрамя рабочых з Беларусі, прымуць удзел украінскія, краснадарскія і армянскія будаўнікі. Пракладка такой трасы, дзе даўжыня труб можа дасягаць 16 метраў, — справа складаная, таму патрэбны не толькі сучасная тэхніка, але і спецыяльныя веды.

Цяпер ідзе фарміраванне дагаворных цэн для падпісання кантрактаў паміж генпадрадчыкамі, РАТ «Газпром» і «Белтрансгазам». Фінансаванне ажыццяўляецца расійскім бокам, але інвесціраваць праект можа і Беларусь. У гэтым выпадку рэспубліка будзе мець права ўласнасці на частку газаправода.

Адказваючы на пытанне карэспандэнта БЕЛТА, у якіх яшчэ падобных міжнародных мерапрыемствах прымае ўдзел наша рэспубліка і ці ёсць у гэтым неабходнасць, Мікалай Мачарнюк адзначыў, што беларускія будаўнічыя арганізацыі ўдзельнічаюць у тэндэрах па ўзвядзенню наступных участкаў трасы «Ямал — Еўропа», кампрэсарных станцый і аб'ектаў інфраструктуры сістэмы магістральных газаправодаў. Усе здзелкі арганізуе і праводзіць у Маскве РАТ «Газпром». Для гэтага там створаны Тэндэрны камітэт. Што датычыць конкурсу на будаўніцтва ўчастка Смаленск — рака Бярэзіна, то для ўдзелу ў ім падалі заяўкі шэсць суіскальнікаў. Пакуль пераможца не вызначаны, таму што эканамічныя паказчыкі ва ўсіх прыкладна аднолькавыя. Пракладка ліній «Нясвіж — дзяржаўная граніца Польшчы» пачнецца ўжо ў сакавіку.

Беларусь будзе ажыццяўляць пастаўку мясцовых матэрыялаў, вырабляемага ў нас абсталявання і неабходных канструкцый, а таксама выконваць усе агульнабудаўнічыя работы. Рэспубліка пры гэтым атрымае не толькі рабочыя месцы, але і пэўны прыбытак.

**Тэрэза ХАЮЦІНА, БЕЛТА.**

## АРМІЯ: АД КОЛЬКАСЦІ ДА ЯКАСЦІ?

**Каля 18 тысяч афіцэраў звольнена з беларускіх Узброеных Сіл за час іх рэфармавання. Толькі за 1992 і 1993 гг. гэтыя лічбы склалі каля 6.500 і 7.500 чалавек адпаведна.**

У мінулым годзе колькасць афіцэраў, што развіталіся з Узброенымі Сіламі, значна зменшылася. Іх шэрагі пакінула крыху больш як 3.500 прафесіяналаў ваеннай справы. Праўда, амаль трэць з іх склалі малодшыя афіцэры — 958 чалавек. Асноўная прычына, што перашкодзіла лейтэнантам, старшым лейтэнантам, капітанам працягваць службу ў арміі, — сямейныя абставіны (252 чалавекі), 202 маладыя афіцэры звольніліся з Узброеных Сіл па скарачэнню штату.

За дыскрэдытацыю воінскага звання і па службовай неадпаведнасці пайшлі з арміі 133 і 207 чалавек адпаведна. Па хваробе — 71 чалавек.

**Аляксандр МАКАРАЎ.**

## НЕ ВЫМАГАЙЦЕ Ў ІНШАЗЕМЦАЎ

**Аператыўна спрацавалі ў затрыманні вымагальнікаў інспектары дарожна-патрульнай службы Барысаўскага ўчастка дарожнай міліцыі. Менш як 20 хвілін ім спатрэбілася, каб затрымаць рэкеціраў.**

У час нясення службы на 420-м кіламетры трасы Брэст—Масква да інспектараў Паўла Волкава і Анатоля Яраша звярнуліся грамадзяне Венгрыі — вадзіцелі велікагрузных фургонаў. Яны растлумачылі, што ў час вымушанага прыпынку, звязанага з паломкай аўтамашыны, невядомыя маладыя людзі, якія пад'ехалі на аўтамабілі «Масквіч», запатрабавалі ў іх грошы. Хутка зарыентаваўшыся, інспектары падзяліліся на дзве групы: Волкаў сеў у фургон да венгра, а Яраш на службовай «Волзе» пачаў праследаваць рэкеціраў. Дзякуючы раптоўнасці і прафесіяналізму міліцыянераў бандыты былі затрыманы без адзінага выстралу. Трэба адзначыць і тое, што ў час перадачы грошай адзін з вадзіцеляў умудрыўся перапісаць нумары двух грашовых купюр. І калі пад дыванком у аўтамабілі рэкеціраў былі знойдзены грошы — адпірацца не было сэнсу.

**Пётр РАБКАВЕЦ, прэс-цэнтр МУС Рэспублікі Беларусь.**

## КРЫВАВАЯ ДРАМА Ў РЭЙСАВЫМ АЎТОБУСЕ

**45-гадовы халасцяк ударам нажа ў грудзі завяршыў кароткі дыялог з суседкай, ашаламіўшы ўсіх астатніх пасажыраў аўтобуса, сярод якіх былі і дзеці, што ехалі ў школу.**

Вылюдак на гэтым не спыніўся і працягваў рэзаць нажом цела ўжо страціўшай прытомнасць жанчыны. Вадзіцель аўтобуса, які выконваў рэйс «в. Гаменкі — Чавусы», аказаўся не з баязлівага дзесятка. Узброіўшыся манціроўкай, ён спыніў злачынцу і выкінуў яго з салона. Апошні, вярнуўшыся пешшу ў родную вёску, паспрабаваў скончыць жыццё самазабойствам выстралам з абрэза малакалібернай вінтоўкі. Злачынца — электрык адной з гаспадарак Чавускага раёна, раней судзімы за аналагічнае злачынства 20 гадоў назад, і яго ахвяра — прадаўшчыца сельскага магазіна, дастаўлены ў райбальніцу ў цяжкім стане. Мясцовая міліцыя высвятляе прычыны трагедыі.

**А. КАЦЯРЫНЧАЎ, прэс-група УУС Магілёва.**

## НАБЫЦЬ АКЦЫІ ПРАДПРЫЕМСТВА — НЕ ЗНАЧЫЦЬ РАЗЛІЧВАЦЬ НА АТРЫМАННЕ ДЫВІДЭНДАЎ.

А вось акцыянерам аб'яднання «Гомельскі мясакамбінат» пашанцавала. Тут пачалася выплата дывідэндаў за чацвёрты квартал мінулага года. На адну акцыю яна склала 1301 рубель, што роўна 13,1 працэнта ад яе намінальнай вартасці.

**Леанід УЛАДЗІМІРАЎ.**

## ЖЭСЫ ПРЫГЛЯДАЮЦЦА ДА СУСВЕТНАЙ ПРАКТЫКІ

**У бліжэйшай будучыні ўсе кватэранаймальнікі і ўладальнікі кватэр у Мінску будуць напрамую разлічвацца з абаненцкімі службамі: Мінводаканалам, Мінэнерга і Мінгазам без пасрэдніцтва жыллёва-эксплуатацыйных службаў. Такая практыка ўзаемаразлікаў даўно ўжо існуе ў многіх краінах свету.**

Як паведаміў карэспандэнту БЕЛТА начальнік упраўлення жыллёвай гаспадаркі Мінгарвыканкома Леанід Лук'яновіч, у жылых дамах сталіцы ўжо ўстаноўлена 707 прыбораў групавога ўліку цеплавой энергіі, больш як восем тысяч прыбораў пакватэрнага ўліку халоднай вады. Усяго на ўстаноўку прыбораў затрачана 16 мільярдаў рублёў.

Цяпер уладальнікі пакватэрных прыбораў уліку самастойна здымаюць паказанні і аплачваюць іх абаненцкім службам па асобнаму рахунку ў Ашчадным банку.

А ў канцы года іх наведаюць інспектары Мінводаканала, Мінгаза, Мінэнерга, якія правядуць зверку паказанняў прыбораў і паступіўшай аплаты.

**Кацярына ШЫМАНСКАЯ, БЕЛТА.**

## НЕМАЎЛЯТКА ЗАГІНУЛА АД ПЯЛЁНКІ

**Паводле інфармацыі, атрыманай у Галоўным упраўленні ваенізаванай пажарнай службы МУС РБ, за мінулы тыдзень у краіне адбылося 282 пажары, урон ад якіх склаў 1 млрд. 305 млн. рублёў. Агнём знішчана і пашкоджана 20 пабудоў, 61 тона грубых кармоў, 13 адзінак тэхнікі. Загінула 18 чалавек, з іх 8 пенсіянераў, 7 беспрацоўных, 1 дзіця.**

Мінулая нядзеля аказалася для пажарных больш спакойнай, чым папярэдняя, але не абышлося і без трагедыі. Безумоўна, вельмі страшна, калі гінуць у полымі людзі, але яшчэ больш жудасна, калі полымя забірае жыццё немаўлят.

Усяго 15 дзён пражыла маленькая Віка, якая загінула разам з бацькамі ў Крычаве. Мяркуецца, што прычынай трагедыі стала дзіцячая пялёнка, якая ўпала на абагравальнік. Полымя жалю не ведае.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

*ІНТЭРВ'Ю ПАСЛЯ ПАДЗЕІ*

# «АД ШУМНАЙ ДУБРОВЫ ДА СПЕЎНЫХ СЯМЯЦІЧ...»

***З паэтам і грамадскім дзеячам Анатолем ВЯРЦІНСКІМ гутарыць журналістка Таццяна АНТОНАВА***

**— Вы толькі што вярнуліся з Беласточчыны, дзе адзначалася юбілейная дата — 40-я ўгодкі з дня ўтварэння Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы. Якія ўражанні ад паездкі? Як праходзіла святкаванне?**

— Атрымалася так, што ў апошні час мне давялося тройчы наведаць Беласточчыну. З рознай нагоды. На гэты раз — сапраўды з нагоды юбілейнай, святочнай: споўнілася сорак гадоў з часу заснавання вядомай не толькі ў Польшчы і ў Беларусі, але і сярод беларусаў усяго свету грамадскай арганізацыі — Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы з сядзібай у Беластоку. Адзначу перш за ўсё, што гэтай падзеі аддадзена належная ўвага з боку вышэйшага кіраўніцтва дзвюх суседніх дзяржаў. Ва ўрачыстасцях прымала ўдзел афіцыйная дэлегацыя, якую ўзначальваў намеснік Старшыні Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь Уладзімір Русакевіч і ў якую ўваходзілі міністр культуры Аляксандр Сасноўскі і міністр адукацыі і навукі Васіль Стражаў, дарадца віцэ-прэм'ера, адказны за супрацоўніцтва з беларускай дыяспарай, Аляксандр Білык, галоўны інспектар упраўлення міжнародных сувязей Міністэрства адукацыі і навукі Генадзь Пяцігор (апошні, як я даведаўся, сістэматычна апякуе школы і ліцэі Беластоцкага краю і яго тут добра ведаюць). Мне даручылі павітаць юбіляраў Саюз пісьменнікаў і Беларускае таварыства дружбы і культурных сувязей з замежнымі краінамі, калектыў штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». Я з задавальненнем перадаў таксама прывітальны адрас ад вашай газеты, і ён быў цёпла прыняты.

Ну, а што датычыць польскага боку, у прыватнасці афіцыйных уладаў Рэчы Паспалітай, то ў святкаванні прынялі ўдзел новы прэм'ер-міністр Уладзімеж Цімашэвіч (з беларусаў, дарэчы, бацька яго родам з-пад Ваўкавыска), віцэ-маршалак сейма Аляксандр Малахоўскі, кіраўнікі міністэрстваў адукацыі, культуры і мастацтва, дэпутаты сейма, ваяводскія і гарадскія ўлады, а таксама прадстаўнікі грамадскіх арганізацый, у прыватнасці таварыства «Польшча — Беларусь».

Святкаванне не абмежавалася толькі адпаведна падрыхтаваным, па юбілейнаму сцэнарыю, урачыстым пленумам Галоўнага праўлення БГКТ з удзелам гасцей. Вечарам яно перайшло ці не ў самую вялікую ў Беластоку спартыўную залу клуба «Влукняж». Двойчы падымаўся на сцэну прэм'ер-міністр Польшчы: першы раз для таго, каб абвясціць віншавальнае прывітанне ад прэзідэнта краіны, а другі раз, каб уручыць ад яго імя ўрадавыя ўзнагароды, якіх былі ўдастоены некаторыя актывісты БГКТ. Потым на подыум выходзіў наш віцэ-прэм'ер, каб зачытаць віншавальны адрас ад Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і ўзнагародзіць ад яго імя медалём Скарыны старшыню праўлення БГКТ Янку Сычэўскага. Ну, а потым пачаўся і працягваўся некалькі гадзін, да позняга вечара, у перапоўненай зале, гала-канцэрт лаўрэатаў III агульнапольскага фестывалю «Беларуская песня-96». Канцэрт выліўся ў вялікую культурную падзею, у сапраўднае свята беларускага нацыянальнага меласу, беларускага песеннага слова — як народнага, так і аўтарскага. Не-не ды і прыгадваліся міжволі словы з верша-песні паэта і прафесара, ганаровага старшыні БГКТ Алеся Барскага:

Ад шумнай Дубровы да спеўных Сямяціч
Плыве беларуская песня са звонам.

Але і гэтым праграма не вычарпалася. Было яшчэ наведванне вядомай як у Польшчы так і ў Беларусі фірмы «Пронар», якая знаходзіцца ў Нарве і якую ўзначальвае беларус Сяргей Мартынюк (фірма была галоўным спонсарам юбілейных урачыстасцей). А ў нядзелю раніцай мы прысутнічалі на набажэнстве ў храме святога Міколы, падчас якога гучалі на высокай ноце і словы ў гонар усіх тых, хто шануе свае карані, сваіх продкаў, свае нацыянальныя трыдыцыі, культуру і родную беларускую мову. Потым адбылася сустрэча афіцыйнай беларускай дэлегацыі і іншых гасцей з Мінска з кіраўнікамі і актывістамі БГКТ, прадстаўнікамі іншых беларускіх арганізацый на Беласточчыне, беластоцкімі пісьменнікамі, журналістамі і выдаўцамі ў Генеральным консульстве РБ у Беластоку. Сустрэча мела адначасова і святочны, і дзелавы характар.

**— Скажыце, а як у святле юбілейных юпітэраў выглядалі рэальныя вынікі дзейнасці БГКТ? Што яму ўдалося зрабіць, а што, па нейкіх прычынах, не ўдалося?**

— Пачну з канкрэтнага заўважанага мной штрыха, які сведчыць пра многае. Нягледзячы на тое, што на ўрачыстасцях, у адной і другой залах, прысутнічалі дзяржаўныя і грамадскія польскія дзеячы, большасць якіх, вядома, беларускай мовы не ведае, старшынствуючы, кіраўнік Галоўнага праўлення БГКТ Янка Сычэўскі гаварыў толькі па-беларуску (нават і ў тым выпадку, калі звяртаўся да прэм'ер-міністра і яго жонкі). І на поўны голас, настойліва, не падладжваючыся, гаварыў пра саматоеснасць польскага беларуса, пра яго нацыянальную свядомасць, пра яго культурныя каштоўнасці і набыткі.

З вышыні пройдзенага шляху было відавочна, што БГКТ апраўдвае сваё прызначэнне, годна выконвае сваю высакародную місію — місію захавання беларушчыны на Беласточчыне і ў асяроддзі ўсёй беларускай дыяспары ў Польшчы. На рахунку таварыства безліч добрых спраў у самых розных галінах грамадска-культурнага жыцця. Тут — і спрыянне беларускай школе («школьніцтву»), і розныя культурныя імпрэзы, і святы (фэсты, «фэстыны»), і конкурсы, і алімпіяды і г. д. Вось, напрыклад, некаторыя старонкі з летапісу дзейнасці БГКТ у 1995 годзе: у пачатковай школе № 6 у Гайнаўцы адбыўся раённы агляд дэкламатарскага конкурсу «Роднае слова»; такі ж агляд прайшоў і ў Бельскім доме культуры; варшаўскае тэлебачанне здымае фільм пра беларускага разьбяра Уладзіміра Наўмюка з вёскі Канюхі; раённы агляд фестывалю «Беларуская песня-95» адбыўся ў Дуброве Беластоцкай; у Міністэрстве культуры і мастацтва ў Варшаве адбылося пасяджэнне па справе Беларускага музея ў Гайнаўцы; на сустрэчы гарадскога самакіравання з прадстаўнікамі беларускіх арганізацый былі прадстаўлены прапановы наконт вырашэння пытання аб памяшканні для Галоўнага праўлення БГКТ; раённы агляд фестывалю «Беларуская песня-95» адбыўся ў Бельскім доме культуры; урачысты гала-канцэрт II Агульнапольскага фестывалю «Беларуская песня-95» адбыўся ў Беластоку, прынялі ўдзел прадстаўнікі цэнтральных уладаў Польшчы і Беларусі, прысутнічала каля 3 тысяч гледачоў; у Галоўным праўленні адбылася сустрэча старшыні сакратарыята ГП БГКТ з першым намеснікам міністра адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь Г. Пятроўскім і куратарам асветы ў Гродне А. Саўчыкам па пытаннях беларускага школьніцтва на Беласточчыне і далейшай працы двухбаковай камісіі; у Бельску Падляшскім адбылася размова старшыні Галоўнага праўлення БГКТ, дырэктара Беларускага ліцэя з праваслаўным мітрапалітам Варшаўскім і ўсяе Польшчы Васіліем па справе навучання рэлігіі ў школах на беларускай мове... Гэта — толькі частка хронікі, змешчанай у чарговым «Беларускім календары», які выдаецца па ініцыятыве і па заказу БГКТ.

Што датычыць апошняй часткі вашага пытання, то, вядома, у дзейнасці таварыства ёсць цяжкасці — як матэрыяльна-фінансавага, так і ідэалагічнага, як аб'ектыўнага, так і суб'ектыўнага характару. Але гэта ўжо, мабыць, асобная тэма.

**— Нельга, відаць, гаварыць пра юбілей БГКТ, пра вынікі яго дзейнасці і не закрануць пытанне аб стане беларускага друкаванага слова на Беласточчыне.**

— Вы маеце рацыю. І натуральна, што ў тых віншавальных лістах, якія я ўручыў юбілярам — сябрам БГКТ, былі і добрыя словы, словы пашаны і ўдзячнасці ў адрас супрацоўнікаў газеты «Ніва». Дарэчы, я прывёз з Беластока кнігу ўспамінаў «Віры», напісаную першым рэдактарам «Нівы» Георгіем Валкавыцкім і выдадзеную ў бібліятэцы Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа».

Наогул, мне, як літаратару і публіцысту, уяўляецца асабліва важным той відавочны факт, што на Беласточчыне жыве, пульсуе, дае свой плён літаратурна-мастацкае і публіцыстычнае беларускае слова. Выходзяць адна за адной кнігі паэзіі і прозы беластоцкіх аўтараў у бібліятэцы толькі што ўпамянёнага аб'яднання «Белавежа» (пад рэдакцыяй Яна Чыквіна). Выдае кнігі Беластоцкае гістарычнае таварыства. Выходзяць яны па ініцыятыве так званай праграмнай рады тыднёвіка «Ніва». Толькі за мінулы год бібліятэчка «Нівы» папоўнілася такімі кнігамі, як «Панарама гімн Усходняй Беласточчыны» Я. Целушэўскага, «Роздумы на калёсах» дзядзькі Кваса» (псеўданім Міхася Красоўскага), «І так бывала» М. Хмялеўскага.

Праўда, тут узнікае праблема распаўсюджвання, рэалізацыі, а прасцей кажучы, продажу друкаванай прадукцыі, яе ўзнімаў і на гэты раз, падчас юбілейных урачыстасцей, Сакрат Яновіч. Размова ідзе аб тым, каб у «метраполіі», у Рэспубліцы Беларусь кнігі польскіх беларусаў прызнавалі, што называецца, за свае і прадавалі, найперш у прыгранічных Гродне і Брэсце.

**— Мяркуючы па вашай інфармацыі, польскія ўлады разглядаюць грамадска-культурную дзейнасць БГКТ і іншых беларускіх арганізацый у Польшчы як станоўчы фактар у справе далейшага развіцця польска-беларускіх стасункаў?**

— Сумеснае, ў духу ўзаемаразумення і прыязнасці, святкаванне юбілейнай гадавіны сведчыць, што так яно і ёсць. Пра гэта ж гаворыць і той факт, што ў рамках урачыстасцей адбылася і сустрэча польскага прэм'ер-міністра з нашым віцэ-прэм'ерам. Трэба думаць, што падчас яе заходзіла размова аб перспектывах далейшага супрацоўніцтва дзвюх суседніх краін, супрацоўніцтва эканамічнага, культурнага, духоўнага.

*СІТУАЦЫЯ*

# НЕЗАПЛАНАВАНАЕ ВУЧЭННЕ,
## або Чаму патрэбна дзяржаўная праграма абароны людзей у мірны час

**Адключыць гарадскую радыёсетку ад сістэм апавяшчэння вытворчых аб'яднанняў «Палімір» і «Нафтан» былі вымушаны ўлады Наваполацка. Ва ўмовах небяспечнай для наваколля вытворчасці гэта — надзвычайнае здарэнне. Прыняць такое рашэнне прымусіў выпадак, які можна было б палічыць розыгрышам, калі б адбыўся ён 1 красавіка.**

У адзін са студзеньскіх дзён у радыётрансляцыйнай сетцы пранізліва загула сірэна апавяшчэння. Адліваючы металам голас папярэдзіў праз дынамікі аб моцнай хімічнай загазаванасці і каб людзі заставаліся ў сваіх кватэрах, не беглі хавацца ў падвалы. Сігнал паўтараўся на працягу аж 15 хвілін.

Тыя, хто слухаў радыё на той час, зрабілі якраз насуперак падказцы: пайшлі па суседзях, выходзілі на вуліцы пытацца, што да чаго. Тым часам дынамікі заціхлі, потым абвясцілі аб... памылковасці папярэдняга паведамлення. І хоць штаб грамадзянскай абароны горада потым дзевяць разоў паўтарыў заспакаяльную інфармацыю, горад не адразу суняўся. Недасведчаныя не ведалі, каму верыць, а крыху дасведчаныя падлілі масла ў агонь. Бо якраз у той дзень з-за непаладкі ў аб'яднанні «Палімір» у ліўневую каналізацыю трапілі праз грунт сцёкавыя воды, насычаныя кіслым асяроддзем, і вяліся аварыйныя работы...

Пра здарэнне можна было б не ўпамінаць, тым болей, што сваю службу яно саслужыла: падрамантавана сістэма апавяшчэння, якая да таго абыходзілася без капітальнага рамонту 6 гадоў. Але куды больш лагічна разглядаць выпадак як незапланаванае вучэнне, якое можа падказаць больш чым тыя, што гладка выглядаюць у справаздачах.

З брашуры ў брашуру па грамадзянскай абароне блукае прыклад з некалі забраўшай шмат жыццяў хімічнай аварыі ў Індыі. Што адбылося б з навапалачанамі за 15 хвілін, калі б — крый Божа' — нешта сур'ёзнае закранула выбухова - і пажаранебяспечныя вытворчасці гэтага горада? І ці можна верыць сірэнам? Выпадкі так званага «несанкцыяніраванага запуску» іх адбыліся на Полаччыне летась двойчы, а па Віцебскай вобласці зафіксавана 186(!) пашкоджанняў радыеапаратуры апавяшчэння. Цяпер больш сур'ёзная статыстыка. Усялякія надзвычайныя сітуацыі, уключаючы пажары, прывялі да гібелі 109 чалавек і матэрыяльных страт у памеры 36 мільярдаў рублёў толькі за адзін мінулы год.

На Віцебшчыне пад сотню выбухованебяспечных вытворчасцей, два дзесяткі прадпрыемстваў з іонавыпраменьваннем, праз яе праходзяць сотні кіламетраў нафта - і газаправодаў. Непадалёк размясціліся Смаленская, Ленінградская, Курская атамныя электрастанцыі. А Ігналінская АЭС, рэактары якой аднатыпныя з чарнобыльскімі, — у сямі кіламетрах ад Браслаўскага раёна. У зоне экстраннай эвакуацыі ў выпадку аварыі на ёй апынецца больш за 20 тысяч жыхароў Браслаўшчыны. Яшчэ 210 тысяч чалавек з сямі раёнаў вобласці пражываюць у 100-кіламетровай зоне. Летась, калі тэрарысты пагражалі выбухам станцыі, узнікла ледзь не паніка.

Вучыцца жыць у небяспечным суседстве трэба. Абласны штаб грамадзянскай абароны распрацаваў меры па комплекснай абароне насельніцтва на выпадак бяды ў Ігналіне, мерапрыемствы па захаванню бяспекі жыхароў ёсць і на выпадак іншых надзвычайных сітуацый. Аднак нават падтрыманне рэзервовага фонду матэрыяльна-тэхнічных сродкаў праблематычнае: няма на тое лішніх грошай у бюджэце. Выдзяляць, пры ўсім жаданні, ўдаецца толькі на драбязу. Так, пасля стварэння па ўказу Прэзідэнта рэспублікі сістэмы радыелагічнага маніторынгу ў Браславе ўдалося на 97 працэнтаў забяспечыць апавяшчэнне насельніцтва, а жыхары хутароў усё роўна засталіся адрэзанымі нават ад такога сродку цывілізацыі, як радыёлінія. Аблвыканком вырашыў аплаціць набыццё для іх трохканальных радыёпрыёмнікаў. Больш сур'ёзныя расходы вобласці проста не па сілах. Так, прамую сувязь Браслава з дзяжурным на Ігналінскай АЭС пакуль што замяняе бясконцая перапіска, хоць па міжнародных пагадненнях краіна — уладальнік патэнцыяльных сродкаў небяспекі павінна паклапаціцца пра насельніцтва, нягледзячы на межы.

На беларускай тэрыторыі падступае да літоўскай станцыі неахоўваемае возера, няма на ім неабходных плаўсродкаў.

У выпадку радыеактыўнага заражэння машыны на грунтавых дарогах узнімуць небяспечны пыл...

Нават у такіх умовах нямала могуць зрабіць батальён грамадзянскай бяспекі штаба ГА, ствараемыя рэгіянальныя пажарна-аварыйныя фарміраванні, што павінны дзейнічаць згодна з планамі эвакуацыі. Гэта калі прытрымлівацца тых планаў. Як паказваюць «незапланаваныя вучэнні», навука на карысць нам не ідзе. Раздалі ў 30-кіламетровай зоне ад Ігналіны сутачны запас ёду. Выявілася, яго ўжо...з'елі. Запоўненыя рэзервуары паліва спалілі. Трэба набываць марлевыя павязкі, ды ці не выкарыстаюць іх на цадзілкі? Юрыдычна ніяк не агавораны паводзіны людзей у надзвычайных сітуацыях. Ды і не праблема гэта адной Віцебскай вобласці, як не адной ёй і пагроза.

Патрэбна дзяржаўная праграма абароны людзей у мірны час..

**Паліна АЛЯКСАНДРАВА.**
*г. Віцебск.*

# ВІЗІТ ПРЭМ'ЕРА
## Два дні ў Сафіі знаходзілася ўрадавая дэлегацыя Беларусі

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Наша паўторнае пранікненне на балгарскі і іншыя постсацыялістычныя рынкі аблягчае і тое, што эканомікі гэтых краін доўгія гады развіваліся ў рамках СЭУ на ўзаемадапаўняльнай аснове. Сёння некаторыя краіны Усходняй і Цэнтральнай Еўропы маюць патрэбу ў пастаўках шын, абсталявання, камплектуючых з нашага рэгіёна. І наадварот, мы зацікаўлены ў атрыманні з Балгарыі лекаў, сельгаспрадукцыі, тавараў лёгкай прамысловасці і г.д.

Міхаіл Чыгір у час візіту не аднойчы падкрэсліваў, што ўзаемаразуменне і добразычлівасць, якія даўно існуюць паміж нашымі народамі, не адпавядаюць узроўню эканамічнага супрацоўніцтва.

Так, сябруем мы з балгарамі вельмі даўно, а вось паўнацэнныя дыпламатычныя адносіны паміж дзвюма дзяржавамі былі ўстаноўлены толькі ў 1992 годзе. Дарэчы, Балгарыя адна з першых у свеце прызнала незалежную Рэспубліку Беларусь. Неўзабаве адбыўся візіт у Сафію Старшыні Вярхоўнага Савета Станіслава Шушкевіча, у ходзе якога было падпісана пагадненне аб палітычным і эканамічным супрацоўніцтве. Але яно развівалася вельмі марудна і зусім не адпавядала таму велізарнаму патэнцыялу, які быў назапашаны дзесяцігоддзямі сумеснай працы ў рамках Савета Эканамічнай Узаемадапамогі.

Гэты перыяд нерэалізаваных намераў, а калі быць зусім дакладным — страчанай выгады з абодвух бакоў, цягнуўся да мінулага лета, пакуль нарэшце ў Сафіі не было адкрыта беларускае пасольства. Вось тады і пачалося прыметнае ажыўленне беларуска-балгарскіх сувязей. Дарэчы, значны рост знешнегандлёвага тавараабароту Беларусі быў дасягнуты з кожнай краінай, дзе пачалі працаваць больш-менш паўнацэнныя яе дыпламатычныя прадстаўніцтвы. Бо пасольства са штатам у некалькі чалавек з вялікім допускам можна лічыць паўнацэнным.

Мы ў падсвядомасці яшчэ нярэдка па-ранейшаму лічым сябе былой савецкай рэспублікай, малой краінай (вядома, куды нам да расійскай адной шостай сушы свету), хаця па еўрапейскіх мерках Беларусь — не такое ўжо дробнае дзяржаўнае ўтварэнне. На думку Аркадзя Чарапанскага, начальніка ўпраўлення краін СНД, Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, МЗС (на ўзначальваемую ім структуру была ўскладзена адказнасць за арганізацыйнае, інфармацыйнае і аналітычнае забеспячэнне візіту Міхаіла Чыгіра), мы — сярэдняя еўрапейская дзяржава. Наша геаграфічнае становішча, узровень развіцця эканомікі, людскія рэсурсы дазваляюць Беларусі спадзявацца на паляпшэнне жыцця народа дзякуючы правядзенню разумнай экспартнай палітыкі, удасканаленню знешнеэканамічнай дзейнасці.

Прыклад Балгарыі, дакладней, новыя перспектывы, што адкрыліся пасля візіту нашай урадавай дэлегацыі, пераконваюць у гэтым. Нават выхад на ўзровень гандлёвага абароту часоў не такога ўжо далёкага савецкага мінулага дазволіць многім нашым прадпрыемствам адчуць палёгку. Бо тады Мінскі завод вылічальнай тэхнікі атрымліваў 30 працэнтаў камплектуючых з Балгарыі і столькі ж накіроўваў туды сваёй прадукцыі. Сотні нашых «БелАЗаў» па-ранейшаму выкарыстоўваюцца ў кар'ерах па здабычы меднай руды і свінцу. Тысячы «МАЗаў» перавозяць грузы па дарогах краіны. У сельскай гаспадарцы Балгарыі, якая дынамічна развіваецца, нашы трактары «Беларусь» пакуль яшчэ незаменныя.

Сёння ў краіне самы ходавы беларускі тавар — мінскія халадзільнікі і маразільнікі. Іх штогод тут прадаюць больш чым на мільён долараў. Не толькі ў Балгарыі, але і на ўсім Балканскім паўвостраве няблага разыходзіцца соль з Мазыра. Таксама карыстаецца попытам прадукцыя магілёўскага аб'яднання «Хімвалакно». Перспектыўным таварам абяцаюць стаць калійныя ўгнаенні з Салігорска. Гэты пералік можна яшчэ доўга працягваць. Як і называць балгарскія прамысловыя тавары, медыкаменты, прадукты харчавання, садавіну і агародніну, віны, да якіх мы прывыклі ў свой час і набывалі іх па вельмі прымальных цэнах.

Чаму ж сёння цэны на балгарскую прадукцыю ў нас і на беларускую ў іх «кусаюцца»? Адна з галоўных прычын — у былой практыцы вядзення імпартна-экспартных аперацый паміж СССР і Балгарыяй. У ім камандавалі Масква і Сафія, а Беларусь была амаль поўнасцю адхілена ад экспартных паставак на завяршальным этапе. На ўсіх вырабах стаяў знак «Зроблена ў СССР». Вось гэта акалічнасць нам і сёння моцна шкодзіць. Бо далёка не ва ўсіх краінах ведаюць, што добра зробленыя ў СССР тавары мелі і маюць канкрэтны адрас — Беларусь.

Балгары хоць і былі ў параўнаўча больш выйгрышнай сітуацыі, але і яны не ведалі дакладна, у якую менавіта рэспубліку СССР накіроўвалася іх прадукцыя: Беларусь ці Кіргізію, Украіну ці Літву.

Можа таму па прычыне нашай нявопытнасці, неразваротлівасці, звычцы давяраць ва ўсім Маскве сёння «БелАЗы» на балгарскі рынак паступаюць праз расійскіх пасрэднікаў. Запасныя часткі для трактараў «Беларусь» распаўсюджвае з Масквы былы прадстаўнік у Сафіі — «Саюзтрактарзамежпастаўка». Усе гэтыя, часта няпрошаныя намі пасрэдніцкія паслугі, аб якіх мы не прасілі, толькі павялічваюць цану беларускіх вырабаў, дрэнна адбіваюцца на іх канкурэнтаздольнасці.

Церпяць нярэдка ад адсутнасці гандлю напрамую і балгары. Уражальны прыклад прывёў не так даўно Міхаіл Лаўрыновіч, прэзідэнт Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі. Цана аднаго з балгарскіх каньякоў, пакуль ён праз шматлікія пасрэдніцкія фірмы траліць на Беларусь, павялічваецца ў 17 разоў!

Будзем спадзявацца, што гэтыя і іншыя недарэчнасці і праблемы зніме змешаная міждзяржаўная камісія па эканамічнаму і навукова-тэхнічнаму супрацоўніцтву. Як сказаў на заключнай прэс-канферэнцыі Жан Відэнаў, старшыня Саўміна Балгарыі, у іх краіне гэта ўжо традыцыйная і добра зарэкамендаваўшая сябе форма арганізацыі двухбаковых адносінаў з многімі краінамі, у тым ліку і еўрапейскімі, і азіяцкімі і з іншых кантынентаў. З нашага боку гэту структуру ўзначаліць міністр знешніх эканамічных сувязей Міхаіл Марыніч.

Відаць, адным з накірункаў дзейнасці гэтай камісіі стане наладжванне ваенна-тэхнічнага супрацоўніцтва з Балгарыяй, аб чым заявіў на прэс-канферэнцыі Міхаіл Чыгір. У Беларусі няма самастойнага вопыту гандлю зброяй і армейскім абсталяваннем, а ў Балгарыі ён ёсць. З яе дапамогай мы мяркуем прасоўваць на ўжо заняты і падзелены рынак узбраенняў сваю ваенную прадукцыю: радыёэлектроніку, оптыку, камандныя пункты кіравання войскамі і інш. Але, як падкрэсліў наш прэм'ер, Беларусь будзе няўхільна выконваць усе міжнародныя пагадненні, якія тычацца гандлю зброяй.

Увогуле, візіт быў добра арганізаваны і прайшоў як бы на адным дыханні. Гэта, прынамсі, адзначалі і кіраўнікі ўрадаў абедзвюх краін. Але не абышлося і без непрыемных момантаў, якія часам здараюцца ў ходзе перагавораў дэлегацый.

У апошні момант высветлілася, што праект пагаднення аб пазбяганні двайнога падаткаабкладання не ва ўсім адпавядае беларускаму заканадаўству, а таму падпісанне гэтага важнага пагаднення было адкладзена. І тут недапрацоўка нашага боку.

Але не будзем надаваць гэтаму вялікага значэння. Усё дасягаецца практыкай, і, думаецца, чым актыўней мы будзем развіваць двухбаковыя адносіны, тым менш будзе падобных памылак.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

*МЕРКАВАННЕ*

# А ці патрэбна такая бойка?

Са сродкаў інфармацыі ведаем, што на першай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання двойчы выступалі старшыня Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь В.Г. Ціхіня і старшыня Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь, дэпутат С.А. Багданкевіч. Пры адкрыцці сесіі і на закрытым пасяджэнні Вярхоўнага Савета выступаў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Р. Лукашэнка. Наша прэса апублікавала выступленні ўсіх траіх, каменціравалася і выступленне Прэзідэнта на закрытым пасяджэнні. Потым у прэсе зноў была выкладзена пазіцыя (закрыты даклад) Прэзідэнта па пытаннях фінансава-крэдытнай палітыкі, і зноў з прэтэнзіямі да Багданкевіча.

Усё б добра, але ўзнікае законнае пытанне: ці не ператварылася ўсё гэта ў сварку?

Калі ёсць прэтэнзіі да В.Г. Ціхіні — выносьце на разгляд у Вярхоўны Савет, калі ёсць сур'ёзныя прэтэнзіі да Багданкевіча — няхай Пракуратура Рэспублікі ўносіць свае прапановы ў Вярхоўны Савет.

Вінаватыя службовыя асобы любога рангу — праверка абавязковая. Ёсць для гэтага КДБ, МУС, пракуратура. Падрыхтавалі ўсё неабходнае па працэсуальных нормах, і, калі абвінавачанне абгрунтавана, — разглядаць па нормах Канстытуцыі і крымінальнага заканадаўства.

**Барыс ШАЛЯНГОЎСКІ, старшы навуковы супрацоўнік інстытута Белінфармпрагноз.**

# Незалежнасць бабы Евы



***Ева Адамаўна Арцюшэнка — з тых нешматлікіх мужных перасяленцаў, што вярнуліся ў «зону». Вярнуліся на свае берагі, пад родненькія дахі — дажываць век. Хаця чаму дажываць?.. Побач яшчэ дзесятак адроджаных хат. Тры гады таму ажыла «мёртвая» вёска Белы Бераг Нараўлянскага раёна. Калі запытаць, чаму павярталіся назад, у радыяцыю, дык пачуеш такое: «Намучыліся мы ў выгнанні».***

***Гаспадарка ў Евы Адамаўны не горшая, чым у іншых, хоць і ўдава.***

***«Пакуль сілы маю, буду працаваць». А праца гэтая патрэбна дзецям ды ўнукам у горадзе. Не сябе — іх шкадуе мама і бабуля.***

***Здароўя Вам, шаноўная Ева Адамаўна!***

**Анатоль КЛЯШЧУК. Фота аўтара.**

*КАНФЕРЭНЦ-ЗАЛА*

# Удасканальваецца сістэма аховы здароўя Беларусі

**Аб неабходнасці ўсеагульнага абмеркавання Канцэпцыі развіцця аховы здароўя, распрацаванай Міністэрствам аховы здароўя Рэспублікі Беларусь, ішла размова на прэс-канферэнцыі міністра Інесы Драбышэўскай 20 лютага.**

У апошнія дзесяць гадоў стан здароўя людзей няўмольна пагаршаецца. Гэта тлумачыцца немагчымасцю многіх грамадзян забяспечыць сябе працай, жыллём, паўнацэнным харчаваннем. Значна павялічылася колькасць псіхічных захворванняў, суіцыдаў. Ужо тры гады ў нашай рэспубліцы памірае людзей больш, чым нараджаецца. Больш таго, у краіне высокая дзіцячая смяротнасць. У апошнія гады распаўсюдзіліся сацыяльныя захворванні, напрыклад, туберкулёз, а таксама анкалагічныя. Празмерна высокімі тэмпамі адбываецца рост венерычных захворванняў, асабліва сіфілісу. Вынікам насаджэння тэорыі шкоднасці вакцынацыі супраць дыфтэрыі стала распаўсюджванне гэтай хваробы, страта імунітэту супраць яе. У такіх умовах неабходны прынцыпова новы падыход у працы медыкаў.

Міністэрства аховы здароўя распрацавала Канцэпцыю развіцця аховы здароўя ў Рэспубліцы Беларусь. Толькі калі дзяржава прызнае яе, прызнае, што ахова здароўя людзей з'яўляецца прыярытэтнай галіной, тады рэформы ў медыцыне пойдуць.

Расказваючы пра Канцэпцыю, Інеса Драбышэўская падкрэсліла неабходнасць стварэння шматукладнасці ў медыцыне. Трэба вызначыць аб'ёмы дапамогі, якая будзе прадастаўляцца бясплатна, і той, што патрабуе аплаты. Кожны хворы павінен атрымаць абавязковы мінімум, аднак разлічваць на падтрымку дзяржавы звыш таго сёння не прыходзіцца. Гэта неабходна і для таго, каб пераарыентаваць грамадзян: хварэць нявыгадна, выгадна весці здаровы лад жыцця.

Павінна быць у краіне і страхавая медыцына. Аднак, паводле меркавання міністра аховы здароўя тое, што ў свой час закон аб страхавой медыцыне не быў прыняты Вярхоўным Саветам, нават добра. Мы маем магчымасць яго дапрацаваць, абапіраючыся на вопыт Расіі, дзе такі закон дзейнічае.

Міністр падкрэсліла, што на сённяшні дзень гаварыць пра адсутнасць лекаў у краіне не даводзіцца.

Іншая справа, што многія лекі занадта дорага каштуюць. Але цэны будуць зніжацца: некалькі дзён таму ўстаноўлены новы механізм цэнаўтварэння на лекі.

Інеса Драбышэўская адзначыла, што ў адпаведнасці з канцэпцыяй рэарганізаваны НДІ ў навукова-практычныя аб'яднанні па пэўных праблемах.

Па-новаму будуць рыхтавацца медыцынскія кадры: дыплом нашага спецыяліста павінны прызнаваць і за мяжой краіны.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

